# ДУБРОЎСКІ
# Н А С Т РО Й №100

ЛЮТЫ 2007

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## БЕЗ ВОЛІ.

Чытачу,
ты трымаеш у руках соты нумар народнага баявога лістка- саматужнага выдання, якое ўзьнікла неяк само сабою дзевяць год таму.

Дзевяць год таму становішча ў Дуброве было трошкі іншае. Нас было болей. За гэты час шмат дуброўцаў, добрых беларусаў, пайшлі ад нас.
У Дуброве перастаюць нараджацца дзеці.
Школа, якая ўзьнікла сто дваццаць год таму і спраўна служыла людзям, зьнікае відзя.
Моладзь эмігруе ў гарады.

Дзевяць год таму дуброўцы гаравалі на ўкрадзенай у іхніх продкаў зямлі на дзяржаву, якая ім амаль нічога не плаціла. Сёння яны гаруюць на ўкрадзенай у іхніх продкаў зямлі, але дзяржава знайшла крыніцу дафінансавання і грошай трохі паболела, ды сфармаваная на камуністычным прыгоне і на кражы агідная сістэма не зьмянілася.

Дзевяць год таму ужо пачалося паляванне на беларускую нацыю. Пачалося вынішчэнне вольнага беларускага друку, тэлебачанне пачало гідаваць нашу мову, а дыктатар і ягоная хеўра мацавалі латвей свае ўчэпістыя ручкі на беларускім грамадстве.Супраць нашай нацыі вядзецца псіхалагічная вайна, якая не спыняецца па сёння. І гэты тэрор набывае моц у розных «антытэрары»-стычных» законах, у кодэк сах і дэкрэтах.
Некалі абраны прэзідэнтам на адносна вольных і чэсных выбарах кіраўнік Беларусі стаў аўтарытарным узурпатарам з неабмежаванымі паўнамоцтвамі, зьнішчыў інстытуты дэмакратычнай дзяржавы-незалежны парламент, суд, друк, прафсаюзы, грамадзкія арганізацыі, зьлягчаў палітычныя партыі, ліквідаваў чэсныя і справядлівыя выбары. Усе начальнікі пераўтвораны ў афіцыйных палітычных даносчыкаў і сікафантаў. Божа, які сорам!

Дыктатура трушчыць і топча Беларусь. Гэта страшна небясьпечна для краіны, нашага народу і нашага грамадзтва.

Па наступствы хадзіць далёка не трэба: нікчэмныя «выбары», несамастойныя абыякавыя людзі ў дэпутатах, вуліцы, пераўтвораныя ў ямы, звандалізаваныя грамадзкія і жыллёвыя будынкі, нікчэмнасьць жытла, жыцця, бяспра-ўе і бязмэтнасьць існавання.

Наш народны баявы лісток імкнецца адлюстроўваць тутэйшае жыццё, паказаць пад крытычным вуглом пэўныя тутэйшыя зьявы, зьвярнуць увагу нашых чытачоў на анамаліі беларускай рэчаіснасьці.

Мы дбаем пра нашу мову. Гэта наш сталы клопат. І, дзякаваць Богу, часам чытачы гэта адзначаюць адмыслова.

Канешне, калі б такога кшталту выданне не было цікава нашым чытачом, яно даўно перастала б існаваць.

Але людзі хочуць пачуць разнамасныя погляды, а не толькі «правільныя», выблюнутыя афіцыйнай прапагандай. А дзеля паліванне народу прапагандысцкімі блявакамі дыктатар стварыў міністэрства прапаганды, гэтак званую «ідэалагічную вертыкаль», то бок статак ідэалагічных старчакоў.

Наш лісток як можа супрацьстаіць вытворцам прапагандысцкага пойла.

Мы ўдзячны нашым чытачом, нашым народным распаўсюднікам за сімпатыю і падтрымку.

Ніхто не ведае, колькі яшчэ праіснуе наш народны лісток. Звычайна ў лісткоў нядоўгі век. Але чужы досьвед паказвае, што праз пэўны час такія лісткі становяцца артэфактам гісторыі.
Дзякуем за тое, што чытаеце, памагаеце і крытыкуеце.

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

## СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ ТРЫУМФУЕ.

Руплівая работніца Галя Цярэшчанка раней за ўсіх раскруціла і расьцягнула свой рулон саломы. (Акурат бабская праца! Але старшы начальнік Пятро гэтага не заўважыў і памылкова вырашыў, што жанчына не працавала і пасьпяшаўся абвесьціць ёй, што за няўпраўку пазбаўляе яе прэміі.

Жанчына абурылася і пажалілася дырэктару арцелі, а дырэктар прызнаў ейную правату і супакоіў яе.

Канфлікт скончыўся шчасьліва.

Раней Галя гаравала дворнічыхай у школі, але мусіла пайсьці і цяперака вельмі давольная: і заробак лепшы і кпін не чуе.

---

## МІКАЛАЯ ЧЫРВУ НЕ ПЕРААБРАЛІ.

### (мо за лазьню ў Дуброві)

У Шацілках прайшла першая сесія новага райсавету. Дбайна прасеяныя дэпутаты абралі новай галавою новага райсавету сп. Філіповіч Галіну, якая раней камандувала адукацыяй і дбайна прабівала дзяржаўную ідэалогію ў галовы вучнёўства. Цяперака ў яе будзе болей магчымасьці.

А вось сп. Мікалай, які, недавыціснуў з сябе раба, пішчом лез, верна служыў дыктатарскаму рэжыму на ўсіх фальшывых рэферэндумах і выбарах не выбраны галавою.

Дзіўнага тут нічога не было б, калі б у нас была дэмакратыя. Была б звычайная канкурэнтная ратацыя чынавенства.

А так, што ні кажы, выціснуў старчаковы Пірштук - яго ж ніхто, акрамя Лукашэнкі- не абірае- псеўдааабранніка Мікалая Чырву і вось уся палітычная валтузьня.

А нам здаецца, што не выбралі яго на ягоную законную пасаду -(панароднаму прагналі ) за развал лазьні ў Дуброве.Казаў ён, што зробяць яе, але «слова разыйшлося з справай».

Ды тае бяды! Што-небудзь для сп. Мікалая знойдуць. А не знойдуць- мецьме добрую пеньсію. (Усе чыноўнікі маюць права на пеньсію маючы 15 год стажу чыноўніцкай дзейнасьці.)

З Шацілак кажуць, што вельмі лютуе ягоная жонка, дырэктарка школы №1. Так дапякла завучыху, што гэная сказала ёй «Вы не чалавек» і пайшла лячыцца да душэўнага лекара. А нялюбым настаўніцам дае мінімум нагрузкі і так загадуе ставіць расклад, што тыя аж крэкчуць ад марнага сядзення дзень пры дні ў школе. От гэта савецкі стыль кіравання, новае палітычнае мысьленне актыўная жыццёвая пазіцыя. Кажуць, па пранцаватасьці ейная школа спаборнічае з школай №10, дзе дырэктаркай сп. Драпеза Л.

---

## АДДАЦЬ У ПЯТНІЦУ, ЗАБРАЦЬ У СУБОТУ

У выдачы заробкаў вяскоўцам , як прыкмецілі некаторыя,ёсьць свая тактыка Заробкі плоцяць пад канец тыдня і перад «сьвятамі», лагічна мяркуючы, што гароўныя не выстаяць перад спакусай манапалькі. І сапраўды, ладная частка грошай мантачыцца на, бадай, самы нікчэмны і танны тавар- на беспароднае, нямарачнае пойла, якое заўжды ў псібым асартыменце.

Гэткім чынам, невялікія грошыкі, пашамацеўшы ў кішэнях працоўных, борздка вандруюць у кашэль дзяржавы.

Гэта дужа нагадуе стан СССР ў апошнія гады перад сконам.Тады ўлада, выдаўшы заробкі, скажам у Пскоўскай вобласьці праз пару дзён выманьвала яе пойлам, забірала выручку і самалётам перла яе ў Наўгародзкую, а адтуль шчэ куды.

Наогул, ганебны гандаль танным фальшывым пойлам мусіць быць забаронены.

Адначасна трэбла нанесьці ўдар па гандлярках і гандлярах самагонкаю, па якасьці мала чым адрознай ад таго ж пойла.

Але ўлада моцна захрасла на такім парадку спойвання свайго народу і выцягвання зь яго жыл і адарваць народ і дзяржаву ад гэтых ночваў трудна.

---

## ЯШЧЭ АДНА ЗАБАРОНА: АЎТАРКІЯ?

Гэтым разам дзяржава забараніла гандлярам прадаваць побытавую электратэхніку. Гэта каб народ купляў у дзяржаўных крамах, дзе будзе ладная гандлёвая нацэнка і кошты, натуральна, працантаў на 20 большыя.

Мо дзяржава можа прапанаваць штосьці лепшае і выгаднейшае? Не.

Яна не навучылася нават фламастэраў рабіць: сьпярша куплялі венгерскія, цяперака кітайскія. А колькі было тропаску пра сотавыя тэлефоны? Дзе яны? Плявузкаць і забараняць прашчэй. Гандлярам забаранілі? Гэта нам забаранілі купляць танней. Нізкі паклон табе, родная маці-краіна.

## НОВАЯ, ПАЛЕПШАНАЯ ЦАНА.

Перамога рэжыму над Расеяй ў бітве за таннейшы газ не прынесла палёгкі вяскоўцам. Па нашых разьліках кошт газу для нас, калі браць па кошту правільна запраўленага балона, падрос зараз да **750 даляраў ЗША за 1000** кубаметраў.

**Гэта прыблізна ў 7 з паловаю разоў болей за афіцыйную цану 100 даляраў за 1000 кубоў. Неблагі бізьнес!!**

Мала таго, што з нас вымагаюць гіпер-супер высокую цану за газ, то і атрыманне гэтага газу абмяжоўваюць і абцяжарваюць шэрагам недарэчных умоў.

Па-першае, ёсьць нейкі ліміт на атрыманне колькасьці балонаў газу. Па-другое, сьлесары-газаўшчыкі, што прывозяць газ, спраўна правяраюць № на балонах. І калі той нумар не супадае з іхнім, запісаным, то могуць газ не даць. Ні першае ні другое не маюць аніякага сэнсу і ёсьць простым зьдзекам з вяскоўцаў. Заўважым, што гараджане карыстаюцца газам бязьмерна, безлімітна і па меншай цане.

Пара ўладзе ўзяцца за разважны розум і выкінуць прэч недарэчныя дыскрымінацыйныя «правілы» і не кроіць людзям псіхіку ідыёцкімі капрызамі сталіншчыны.

Цікава, калі надыйдзе «сьветлая- будучыня- не- загарамі», то бок апоўзлае аграмястэчка, то ці будзе там элегантны ліміт на спажыванне брацка-саюзнага «славянскага» прапану-бутану?

Ці мо будзе кажнаму па вялікай і малой патрэбе, а ад кажнага па пустому балону?

З несфальшаванымі нумарамі.

## ДАШЧЫРАВАЎСЯ.

Беларускі рэжым даў сьвету некалькі дзесяткаў чыноўнікаў, якім, як чумавым, забаронены ўезд у цывілізаваныя краіны. (Зрэшты, ім тыя краіны да сракі, бо заявіў жа іхні верхавода і працадаўца, што за цывілізаванымі краінамі свой народ не павядзе). Але гэтая тэза для нутранога карыстання. Пагадзіцеся, не надта прыемна чыноўніку ўсьведамляць, як бы ён не хвабрыўся, што іншыя, роўныя яму па рангу, такім яго не лічаць і што пра такі астракізм вядома багата каму.

Вось і міністра адукацыі сп. Аляксандра Радзькова ўшчыкнулі за палойку амерыканцы, абвясьціўшы яму забарону на ўезд у ЗША.

Гэты магілёўскі хлопец вельмі зашчыраваў на ніве агітпрапу у падуладных яму навучальных установах ад універсітэтаў і ніжай, аж зашкаліла, адрабляючы аказаны яму давер. Універсітэты сталі аддзяленнямі казармы, а школы- вучэльнямі задурвання мазгоў дзяцей «дзяржаўнай ідэалогіяй» так, як яе разумеюць настаўніцы.

Радзькоў спрычыніўся да шэрагу агідных, бескультурных і дзікунскіх распараджэнняў, кшталту таго, які забараняе студэнтам сустракацца з беларускімі пісьменнікамі. Дык мо ім з бандытамі і амапаўцамі сустракацца ў аўдыторыях?

Радзькоў наўпрост датычны да ўціску, дыскрымінацыі і выдалення беларускай мовы з навучальнай сістэмы.

Паслугач і пагромшчык ён добры - і гэта заўважана за межамі Беларусі. Нават за межамі Атлантычнага акіяну.

Адсюль і адзнака ягонага шчыравання. Адзнака, вартая сьвіннюшніка. Віншуем настаўніц з такім дасягненнем міністра.

## ПРА ВЯЗАННЕ ПЕТЛЯЎ.

Беларусь- краіна векавечнага і пракаветняга росквіту. У нас тры дзесяткі тысяч дзяцей сірат і **адно з найпершых мейсцаў у сьвеце па самагубствах.** Сьмелыя беларусы, паспытаўшы замнога зямнога жыцця і пабачыўшы, што нічога добрага іх тут не чакае, усё пакідаюць родным і кіруюцца ў лепшы сьвет. Так бы мовіць, эмігруюць.

Вядома, у розных людзей розныя прычыны не хацець болей жыць, але тое, што яны адважваюцца на такі адчайны крок сьведчыць пра агульны дыскамфорт побыту.

Бальшавікі ніколі не дбалі пра чалавека. Толькі пра «масы».

От і цяпер аніяк не зьніжаецца, а, наадварот, расьце разрыў між законнымі сацыяльнымі і эканамічнымі чаканнямі грамадзян і рэальнымі невялікімі магчымасьцямі. Улада такуе сама сабе і чуе толькі сваё. То багата каму папросту болей нецікава быць непачутымі і гэтак жыць. Зрэшты фенамен самагубстваў уласьцівы не толькі такім неўладкаваным грамадзтвам як Беларусь. У добраўладкаваных Венгрыі ды Эстоніі людзі таксама не чыка юцца з сабою, а пры нагодзе, губяць уласнае жыццё.

І ўсё ж культ самагубства не быў уласьцівы беларусам. Самагубства асуджалася і неўхвалялася. А вось цяпер мы між сусьветных лідэраў.

**Радыё «Свабода»? Чаму не!**

Ад 06 да 08 раніцы і ад 18 да 24 гадзін вечара. На кароткіх і сярэдняй хвалях. Слухае багата хто. Яны даволныя. Слухай і ты.

## «САЮЗНАЯ» ГРЫМАСА

Нафтагазавая калізія не скончылася для Беларусі. Як ні падлабунюваўся дыктатар да Расеі, Масква сьлязам і клятвам не паверыла. Жадаючы латвей трымаць Заходнюю Еўропу- і Беларусь! -за глотку маскалі заявілі, што збудуюць нафта- і газапровад у абыход Беларусі. Калі гэта так, то беларускі дыктатар - а разам з ім і краіна-пазбавіцца грошай за транзіт, магчымасьці карыстацца гэнымі нафтамі і газамі ды магчымасьцю пагражаць «саюзьніку» перакрыццём труб.

Такім чынам можна сказаць, што дужа грозны, але неабачлівы дыктатар у адносінах з суседам перабраў ачко.Ці перагнуў дугу.

Дужа хацелася дыктатару, манячы маскалёў перспектывай прадаць ім Беларусь, танна смактаць амаль адзіны расейскі каланіяльны тавар- газ і нафту.

Канешне, гэта не апошні сюрпрыз для дыктатара. Вельмі мосна павіс ён на ідэі-фікс «яднання» з Расеяй, а насамрэч, ідэі паразітавання.

**То вось сюрпрыз №2**

Расея заявіла, што не дасьць беларускім аўтаперавозчыкам дазволу перавозіць грузы з Еўропу ў Расею і з Расеі ў Еўропу. Вядома, гэта не без інтрыг з боку расейскіх канкурэнтаў, але цалкам у рэчышчы маленькай сваркі.

(У XVII стагоддзі Англія забараніла галандзкім караблям перавозіць тавары з Англіі і ў Англію і тым самым падарвала галандзкую марскую моц). Такім чынам па Беларусі нанесены шчэ адзін удар.От і мяркуй, колькі грошай спаскудзіў нашай краіне задужа каханы дыктатар. Нятанна ён абыходзіцца народу.

Пасьля такога плявання «славянскаю» сьліною ў твар дыктатару варта было б тут жа начырыць дэкрэт пра скасаванне «сьвята» Дзень яднання з Расеяй. Дык не! От пабачыце, загадае сьвяткаваць. На ўсякі выпадак. Хоць расейскі імперыялізм ясна паказаў, што кахае ён нас як рабоў.

---

## КЛУБ ДЫКТАТАРАЎ.

Нядаўна выйшла кніжка- мы не чыталі, але ўхваляем- пра дваццаць найлепшых дыктатараў сьвету. У параўнанні з папярэднім рэестрам тамака невялікія зьмены. Пасьля сьмерці Смурода Сапурніязава з Туркменістану на ягонае дваццатае мейсца дзяжурыць заступіў **Уладзімер Пуцін** з Расеі. Наш на чатырнаццатым мейсцы.

Аўтар кніжкі баіць, што назіраў за нашым у Нагане, куды той лётаў на Алімпійскія гульні. «Першыя два дні ён трымаўся, як кіраўнік дзяржавы, а потым усюды зьяўляўся ў спартыўным касьцюме з сваёю сьвітаю і дужа яны сваімі выхадкамі былі падобныя да гангстэраў». От так!

А чаму і не? Абсалютная ўлада псуе людзей абсалютна.

Асабліва, калі ў галаве нішчымніца культуры ды дзяржаўны, трохі ўжо нямодны, хакей. Чатырнаццатае мейсца-неблагое. Як будзе старацца, то і да першага дакеўляе.

---

## ПРАДАЕ САМАЛЁТ

Прэзідэнцкі самалёт прадае прэзідэнт Перу Алан Гарсія.(Не бойцеся, гэта не наш хаўрусьнік. Нашага завуць Уга Чавэс, ён з Венесуэлы і пакуль што самалёт не прадае).

А самалёт прадае Алан Гарсія, бо яму няёмка лётаць на такім дарагім апараце, тады як палова жыхароў Перу жывуць у беднасьці і галечы, на адзін даляр на чалавека ў дзень.

Самалёт каштуе каля 25 мільёнаў даляраў.

Алан Гасія абыйдзецца без панскага самалёта.

Адзін чалавек, які год таму быў у Перу і бачыў іхняе жыццё сказаў: «Цяперака я разумею, чаму яны не любяць амерыканцаў»

А вось на якую трасцу нашаму ягоны дарагі самлёт, на якім і лётаць асабліва німа куды? Да арабаў і на звычайным кіліме можна падскочыць.

То мо і нашаму час падумаць пра продаж хвамільнага лісапета?

---

**Пажар у Дуброві.**

У чацьвер, 15 чысла, раніцаю раптоўна загарэлася хата нябожчыка Паўла Ляцягі -(забітага два гады таму). Чалавек, які там жыў, неабачліва паставіў у сенцах пячурку сьвінням варыць, ад якой і пайшоў пажар.

Пажарнікі тушылі, але, вядома, памяшканне непрыдатнае да жылля.

---

Пайшоў ад нас добры беларус
**Бусел Васіль Сяргеевіч.**
Да апошніх часоў ён гараваў у арцелі, памагаў. Таксама ў 50я гады памагаў распаўсюджваць аблігацыі
Хай яму зямелька пухам.

Друкарня І.Масьціцкага 100 асобн.